*У РЭДАКЦЫЮ ПРЫЙШЛО ПІСЬМО*

# КАЛІ ДЗЯРЖАВА РАЗГЛЕДЗІЦЬ ЧАЛАВЕКА, А ЧАЛАВЕК — ДЗЯРЖАВУ?

Як быццам ратуючы нас ад жахлівага капіталізму, палітыкі (найперш — тыя, хто яшчэ не ва ўладзе) спяшаюцца запэўніць: усім мы вас, пенсіянеры, інваліды, забяспечым. Жыллё ў вас — будзе. Ільготы — будуць. За кватэру капейкі плаціць будзеце. І гэтыя абяцанкі называюць сацыяльнай абароненасцю чалавека. Не адмаўляючы права пенсіянераў, тых жа інвалідаў на такую абарону, кажу дзяржаве і палітыкам: «Дзякуй! Не трэба...» І за кватэру я гатовы плаціць роўна столькі, колькі каштуе яе ацяпленне, гарачая і халодная вада, прыродны газ і г. д. ... Стаўце лічыльнікі, кантралюйце, выстаўляйце поўны рахунак. Бясплатнага нічога не трэба. Але ж адна маленькая просьба: стварыце заканадаўчыя, сацыяльна-эканамічныя ўмовы, каб і чалавек-адзінка, не будучы жулікам, злодзеем, мог нешта вартае, неабходнае для жыцця зарабіць. Пакуль жа пра ўмовы, пра спрыянне і гаварыць не даводзіцца.

Днямі ў рэдакцыю прыйшло пісьмо. Ананімнае. Можна было б і не друкаваць. Але ж справа не ў аўтарстве. Галоўнае — у думках. Таму — слова невядомай аўтарцы: «Называць сваё прозвішча і ўказваць адрас я не буду, каб не забілі і не абрабавалі бандыты.

Я — кандыдат навук. Ведаю беларускую, рускую, англійскую, польскую і нямецкую мовы. Убачыўшы, што мой інтэлект абкрадваюць дзяржава, усялякія жулікі і прайдзісветы, узяла свой лёс ва ўласныя рукі. Пакінула нікому непатрэбную навуку і занялася, як і тысячы іншых галодных і паўгалодных, бізнесам. Пачала з Польшчы, а затым сваю геаграфію расшырыла на ўсё ўсходняе паўшар'е, чаму спрыяюць веданне моў і рынку, мая дзелавітасць, інтэлігентнасць і прыгажосць. Са мной усе любяць мець справу. Ніколі ні ў кога я не бяру ніякіх распісак, дагавораў, іншай грашова-юрыдычнай дакументацыі. Сапраўдныя бізнесмены працуюць па-джэнтльменску — на словах. Дзяржаве я нічога не плачу, бо і яна мне нічога не дае і не дала... За некалькі гадоў я зарабіла больш як мільярд рублёў і 100 тысяч долараў.

Але гэтыя грошы я ў беларускіх банках не трымаю. Жулікі абдзіраюць банкі, а банкі ў сваю чаргу — так званых фізічных асоб: і з даходу — сабе 95 працэнтаў, а ўкладчыку — толькі каля 5. А мае грошы працуюць на мяне поўнасцю. Я ведаю, каму іх пазычыць і што я за гэта буду мець. Усе нашы банкі — гэта мыльныя бурбалкі. Галоўны злодзей — сама дзяржава.

Сама я жыву ў дастатку, але не ў раскошы. Дзелавым людзям раскашаваць не прыходзіцца. Трэба спадзявацца не на ўрад, на любоўнікаў і чыноўнікаў, а на саміх сябе. Бярыце прыклад з мяне — будзеце самі вяршыцелямі свайго лёсу».

Цяжка вынесці адназначны вердыкт адносна такога прыкладу. Ці зайздросны ён — прыклад беларускай мільярдэркі? Калі меркаваць па багаццю, то можа і зайздросны. Жанчына сама здолела зарабляць вялікія грошы, атрымала матэрыяльную незалежнасць. Безумоўна, гэта пад сілу далёка не кожнаму, нават мужчыну. І зразумелая тут руплівасць жанчыны. Дзяржава можа сёння любы, здавалася б, суперпрыбытковы бізнес звесці на нішто тым падатковым прэсам, што існуе сёння. Па-за ўвагай дзяржавы аказаўся сярэдні, скажам так, клас. Багатым у меншай ступені небяспечны ціск дзяржавы. А вось пачынаючым прадпрымальнікам даводзіцца нашмат цяжэй... Відавочна, што, дбаючы пра будучыню, пра тое, каб у нашай краіне сфарміраваўся асяродак людзей энергічных, дзеяздольных, трэба нешта мяняць у заканадаўстве. Гэта — з разраду прэтэнзій да дзяржавы.

Але ж, не дужа маралізуючы, звернем увагу і на наступную акалічнасць. Узор здольнай на поспех аўтаркі ліста ў рэдакцыю — гэта, кажучы трывіяльна, не зусім і, хутчэй за ўсё, далёка не прыклад. Паклаўшы свае ўласныя грошы ў замежныя банкі, кандыдат навук, мільярдэрка, забяспечыла сабе гарантыі. Але ж, так ці інакш, ведучы гандаль, робячы свой бізнес з нашымі людзьмі, пры самым непасрэдным удзеле нашай краіны, незарэгістраваная прадпрымальніца забрала нешта і ад дзяржавы. Ці, можна гаварыць інакш, — пазбавіла прыбытку гэтых людзей, гэтую краіну. Нас з вамі. Ізноў жа пацверджу: не маралізую. Але хачу, прачытаўшы гэты неардынарны ліст, засведчыць як перакананне наступнае: рух да дзяржавы і дабрабыту павінен быць узаемным. Калі толькі адно будзе зроблена — дзяржава, заканадаўчая галіна яе створаць ідэальныя прававыя нормы, — то ўсё роўна нічога не атрымаецца. Павінен быць і рух насустрач — нават ад людзей прадпрымальных і энергічных. Інакш вялікага дабрабыту, шчаслівага жыцця і ўзаемаразумення паміж рознымі сацыяльнымі групамі насельніцтва нам не пабачыць!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ГІСТОРЫЯ АДНАГО КАНФЛІКТУ*

# БАРАЦЬБА ЗА ЛЕС

**Мяркуючы па немалым стосе дакументаў, якія трапілі ў рэдакцыю, пачатак гэты працяглы канфлікт бярэ яшчэ ў 1994 годзе. Месца падзей — вёска Палыкавічы Магілёўскага раёна, дзеючыя асобы — члены мясцовай камісіі «Экалагічная грамада», магілёўскай раённай філіі Беларускай партыі «зялёных», з аднаго боку, і мясцовыя леснікі, прадстаўнікі органаў выканаўчай улады, пракуратуры раёна і вобласці — з другога, «яблык» разладу — прыгарадны лес у ваколіцах названай вёскі. А зараз аб сутнасці падзей. Іх дынаміку ўдалося прасачыць якраз па перададзеных дакументах і па прыватных размовах з некаторымі дзеючымі асобамі гэтай гісторыі.**

Вядома, што стан навакольнага асяроддзя, асабліва ў вялікіх гарадах Беларусі, ужо даўно не выклікае аптымізму. Пагрозу экалогіі нясуць не толькі буйныя прамысловыя прадпрыемствы, але ў першую чаргу нядбайная, часам проста злачынная, дзейнасць людзей. Мэтай работы камісіі «Экалагічная грамада», якая была створана пры магілёўскай абласной арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, стаў грамадскі кантроль за станам навакольнага асяроддзя і грамадскае рэагаванне на парушэнні экалагічнай бяспекі. Увагу прыцягнула небяспечнае экалагічнае становішча, у першую чаргу па месцы жыхарства большасці ініцыятараў новай арганізацыі «зялёных», а менавіта стан лесу каля вёскі Палыкавічы. Неаднаразовыя праверкі, якія наладжвалі члены камісіі, выявілі не толькі санітарныя высечкі і прарэджванне, якое звычайна робіцца ўсюды згодна з планамі і графікамі лясніцтваў, але і «прамысловую нарыхтоўку лесу ў вялікіх аб'ёмах», а таксама нядбайнае «замятанне слядоў»: вялікія плямы пасля выпальвання сучча і галля, масавыя пашкоджанні дрэў пры тралёўцы, глыбокія каляіны, пакінутыя кодамі магутных трактароў. На думку членаў экалагічнай камісіі, апошняе выклікала пашкоджанне глебавага слоя і стала прычынай масавага засыхання ельніку.

Трывожныя пісьмы адразу ж пайшлі ў розныя інстанцыі (абласны і раённы выканаўчыя камітэты, у пракуратуру), але назад вярталіся толькі звычайныя бюракратычныя адпіскі. Тады да канфлікту былі падключаны газеты. Вось што, напрыклад, піша газета «Свабодныя прафсаюзы» ў 1995 годзе: «Камісараў П. Д., ляснік Магілёўскага лясніцтва, не прапрацаваўшы і года на сваёй новай пасадзе, вельмі хутка асвоіўся ў сваіх угоддзях і пачаў распараджацца народным дабром як асабістай уласнасцю дзеля ўзбагачэння... У Палыкавічах будуюць дачы высокапастаўленыя чыноўнікі розных рангаў. Для абсталявання дач, як вядома, патрэбны піламатэрыялы. Тады ўжо не да ўліку магчымасцей лесу, яго так пашкодзілі, асабліва за апошнія два гады «праўлення» пана Камісарава, што нельга ўжо ўбачыць сёння такіх рэдкіх дрэў як лістоўніцы, якія былі пасаджаны і выпеставаны ў пасляваенны час».

Так, мясцовыя абаронцы прыроды бачылі корань зла менавіта ў асобе лесніка Камісарава, але раённыя камісіі, якія наладжвалі праверкі, прыходзілі да высновы, што ў лесе вядуцца толькі санітарная высечка і прарэджванне лесу, саставу злачынства ў дзеяннях лесніка, такім чынам, яны не знаходзілі.

У ліпені 1995 года нечакана і пры дзіўных абставінах загараецца хлеў, які належыць старшыні Магілёўскай раённай арганізацыі Беларускай партыі «зялёных» і актыўнаму члену «Экалагічнай грамады» Віктару Кавалёву. Вады ў калонках у вёсцы ў тую ноч раптам не аказалася, тэлефоны таксама не працавалі. А мясцовая міліцыя так і не змагла ўстанавіць прычыны імгненнага згарання будынка. «Экалагічная грамада» пачала разглядаць гэтае здарэнне не інакш, як прыклад помсты, тым больш, што ў адрас членаў прыродаахоўнай арганізацыі неаднаразова гучалі пагрозы фізічнай расправы.

Толькі ў ліпені 1995 года «зялёным» удалося прабіць сцяну непаразумення і абыякавасці мясцовых уладаў. Камісія Магілёўскага раённага выканкома, у састаў якой нарэшце былі ўключаны члены «Экалагічнай грамады», усе факты, на якіх настойвалі «зялёныя», пацвердзіла. У выніку з боку раённай інспекцыі па экалогіі Магілёўскаму лясніцтву быў выдадзены акт-прадпісанне аб ліквідацыі выяўленых парушэнняў і недапушчэння падобных фактаў у будучым. Быў папярэджаны галоўны ляснічы Магілёўскага лясгаса сп. Францікаў аб узмацненні кантролю па ахове лесу з боку леснікоў Магілёўскага лясніцтва. Факты даручана было ўзяць на пастаянны кантроль Магілёўскай раённай інспекцыі па экалогіі. Адначасова ў сувязі з тым, што ляснік Камісараў звольніўся яшчэ ў маі, прымяніць штрафныя санкцыі да вінаватых райвыканкому не ўяўлялася магчымым.

Тым не менш, кропкі над «і» хоць часткова, але былі пастаўлены. Але зусім нядаўна з Магілёва зноў прыйшоў трывожны сігнал. На гэты раз ужо ў штаб-кватэру Беларускай партыі «зялёных». «Магілёўскае лясніцтва зноў пачало высечку, — пішуць расхваляваныя магіляўчане. — Магутныя трактары зноў пляжаць лес. Члены экалагічнай камісіі спрабавалі высветліць для каго робіцца зруб з маладых соснаў, тут жа ссечаных. Але ён імгненна быў вывезены ў невядомым напрамку. Часта парубшчыкі кажуць: «Заплаціў за дровы, а атрымаў будаўнічы матэрыял». Магілёўская раённая інспекцыя па экалогіі ў асобе яе начальніка А. В. Кузняцова не выдала пасведчанняў пазаштатных інспектараў, спаслаўшыся на занятасць.

Прыгарадныя лясы — лёгкія горада — знаходзяцца на мяжы сваіх магчымасцей. Любыя парушэнні экалогіі прыводзяць да масавага засыхання дрэў. Роля ж леснікоў зводзіцца да высечкі лесу, а не да яго аховы».

З гэтай нагоды «Экалагічная грамада» лічыць неабходным як мага хутчэй прыняць прыродаахоўны кодэкс, устанавіць прыродаахоўную зону вакол Магілёва і іншых гарадоў, арганізаваць інстытут леснікоў для аховы лясных масіваў, што выключала б магчымасць прыходу выпадковых людзей з мэтай нажывы, а таксама правесці рэарганізацыю прыродаахоўчых службаў для таго, каб забяспечыць сапраўдную ахову навакольнага асяроддзя.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ*

## ...набыць 10 долараў

Чаму менавіта столькі? Бо меўся ліміт грашовага запасу, і на выкананне пастаўленай задачы прыйшлося кінуць 140 тысяч беларускіх рублёў. Больш, па праўдзе кажучы, не знайшлося.

Але хопіць пра балючае пытанне пастаяннага недахвату грошай. Пагаворым лепей пра цяперашнія валютныя аперацыі, якія праводзяць банкаўскія ўстановы рэспублікі з простымі грамадзянамі. Уся справа ў тым, што зараз гэтыя аперацыі праходзяць на дзіва камічна, але з вялікай доляй трагічнага. Такі вось трагіфарс: усё нібы смешна, а смяяцца неяк не хочацца.

Свой «рэйд» я пачаў з акенца пункта Акадэмбанка, наўмысна прамінуўшы цесныя шарэнгі хлапцоў каля кінатэатра «Кастрычнік», бо вырашыў скарыстаць іх паслугі ў самым крайнім выпадку. Першае акенца на маім шляху, першая нечаканасць — няма «зялёных». Тыповы жэст касіра — паварот галавы на 180°, маўляў, няма і не будзе яшчэ доўгі час. Ну добра, крочу далей: пункт валютнага абмену ў Ашчадным банку — там нават нікога ў акенцы не праглядвалася, а так хацелася зазірнуць гэтаму чалавеку ў вочы і папрасіць яго дапамагчы. Але, на жаль, «доларавая дзяўчына» некуды знікла. Далей пункт абмену банка «Дукат». Малюнак крыху змяняецца — хлопец перада мной прамаўляе: «Андруха, можа ёсць што?» Што яму гаворыцца ў адказ, я не чую, затое бачу — прасоўваюцца дзве стодоларавыя банкноты. Узрадаваны, я таксама прашу «Андруху», каб ён прадаў мне крыху долараў. Той з нейкім жахам углядаецца ў мой твар, як бы прыгадваючы, дзе ён мяне мог бачыць, а потым, відаць, не ўспомніўшы, грозна ссунуўшы бровы, кідае: «Няма». Хацелася закрычаць: «Браточкі, родненькія, ну прадайце 10 долараў, вам ад гэтага нічога не зробіцца». Але стрымліваюся і крочу далей — безліч валютных кропак і безліч людскіх мурашнікаў ля іх. Усе стаяць у чарзе за набыццём долараў, адна старая нават прамовіла мне: «Калі здаваць — без чаргі». «Прывілея».

Ведаеце, гэтыя чэргі нечым падобныя на знакамітыя, памятныя ўсім чэргі за чарговым дэфіцытам. Раней гэта была каўбаса ці туалетная папера, а зараз узровень «цывілізацыі» значна ўзрос і таму ўзнік такі страшэнны попыт на долары. Усе разумнымі зрабіліся. «А як жа ж, скончыцца тэрмін валютнага калідора ў пачатку чэрвеня — і ўсё, долар у рост кінецца, папаўзе, як вужака», — кажа мне нейкі студэнцік. «Во, — думаю, — народ як узрос у разуменні фінансавых спраў». І ўпарта рухаюся далей.

Зноў крочу — лаюцца пакупнік з касірам. Хлопец бачыў, як здалі сто долараў, хацеў набыць, а яму сказалі, што гэта валюта пойдзе на «ўнутраныя патрэбы банка». Раззлаваны, ён патрабуе паведаміць тэлефон галоўнай управы, каб патэлефанаваць туды. Яму са злосцю называюць яго. Хлопец крочыць тэлефанаваць, праз пяць хвілін вяртаецца і атрымлівае... патрэбныя 200(!) долараў. У касіра ў руках — пачак «зялёных». Але мне не патрэбна сто, мне патрэбна толькі дзесяць. Наогул, калі б я быў паэтам, то напісаў бы паэму на аснове шыльдачак на абменных пунктах — чаго тут толькі няма: «$ адсутнічае», «долараў няма», «валютай не гандлюем» і г. д. Трэба было пастаяць у чарзе, але часу і так ужо шмат патрачана, таму плятуся да хлопцаў ля кінатэатра «Кастрычнік» і набываю запаветныя дзесяць долараў па курсу 14.500. Пераплачваю і іду тэлефанаваць у аддзел валютных курсаў Нацбанка, але канкрэтнага адказу не атрымліваю.

Усе з бояззю чакаюць канца знакамітага «валютнага калідора»...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ... адрамантаваць чаравікі

Імчуся ў майстэрню па рамонту абутку бліжэйшага Дома быту. У галаве амаль як у вядомага дацкага прынца гучыць: «Быт ці не быт». Бо чаравікі, якія разваліліся, гэта вам не жартач. З іншымі справамі яшчэ можна неяк марудзіць, а тут калі не залатаюць твае «шузы», то далёка не адыдзеш.

Цэны ў майстэрнях па рамонту абутку даволі розныя: так, зашыўка каштуе ўсяго 1.800 «зайцоў», а вось каб паставіць саюзку (змяніць верх) — трэба выкладваць 260 тысяч. Цэны адрозніваюцца яшчэ і па хуткасці выканання заказу. Тэрмінова — гэта значыць на працягу сутак, звычайна — на працягу 10—15 дзён. Выбірайце, як вам больш даспадобы, ды лічыце грошы.

Цэны на рамонт абутку ў дзяржаўных майстэрнях такія: замена падэшвы — 60.300, абцаса мужчынскага — 26.500 (тэрмінова), 22.100 (звычайны тэрмін), а калі гэты абцас скураны ды наборны, прыйдзецца вам тады адлічваць 64.900 рублёў. Жанчыны змогуць аднавіць абцасы за 68.200—82.800. Калі трэба падклеіць — выкладвайце 26.300 рублёў, уставіць «маланку» (прычым вашу) — 14.600—17.500. Калі трэба паставіць набойкі — 13.100—15.700. (Гэта, мабыць, самая папулярная паслуга, як паведамілі мне работнікі майстэрні.) Ну, а калі вашаму абутку патрэбна перацяжка, будзьце ласкавы наскрэбці 230 тысяч беларускіх рублёў.

Наогул жа зараз праца ў шаўцоў ідзе поўным ходам — вясна ўсё ж такі, і хочацца неяк аднаўляцца. Але вось цэны... Хтосьці з пенсіянераў лепш падвяжа кусок гумы да чаравікаў, якія разваліліся, чым пойдзе ставіць новую падэшву за 60 тысяч...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

У Нараўлянскім раёне завяршаецца пасяўная. Вось толькі цяжкай яна аказалася для гэтых простых сялян: Антаніны Архіпаўны Чарняк і Аляксея Васільевіча Анішчанкі.

Зімуюць яны ў гарадской кватэры — зімой там усё ж цяплей, а вясной прыязджаюць на «соткі». Грошай, каб узяць каня для апрацоўкі зямлі, не хапае — вось і даводзіцца рабіць усё самім, уручную.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**



# ЛАГЕР ЗНІШЧЭННЯ «ДРАЗДЫ». ЛІПЕНЬ 1941 ГОДА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Калі мы выходзілі з лагера, то ў цывільным лагеры больш нікога не заставалася. Але з яўрэяў у гэты час нікога не адпускалі. Што з імі зрабілі, мне невядома. Ведаю толькі, што яны былі падзелены на тры групы — спецыялісты (урачы, інжынеры і іншыя), рабочыя і астатнія.

Дададзім, што ваеннапалонных у хуткім часе перавялі ў «Шталаг № 352», які знаходзіўся на паўночны захад ад Мінска, паблізу в. Масюкоўшчына.

У ліпені 1942 г. па даручэнню П. К. Панамарэнкі група інструктараў ЦК КПБ(б)Б падрыхтавала вялікі матэрыял аб становішчы ў акупіраванай БССР, у аснову якога былі пакладзены трафейныя нямецкія дакументы і паказанні сведак нацысцкіх злачынстваў. Спашлемся на дзве вытрымкі з гэтага матэрыялу, якія датычацца лагера ў в. Дразды і наваколлі:

«У лагеры «ваеннапалонных» паблізу Мінска... сотні чалавек **штодзённа гінуць ад голаду, хвароб, пабояў і расстрэлаў** (падкрэслена мною. — **Р. П.**). Трупы загінуўшых не выносяцца на працягу доўгага часу. Захопленых у палон пакідаюць без ежы і вады па 5-6 дзён. Пры раздачы ежы яна дастаецца толькі тым, хто знаходзіцца паблізу ад месца раздачы. Пры кожным выпадку такой «раздачы» маецца некалькі дзесяткаў забітых. Ахова лагера часам «забаўляецца» тым, што адкрывае кулямётную стральбу на вышыні аднаго метра ад зямлі, прымушаючы палонных, якія перасоўваюцца па лагеру, паўзці па зямлі».

І яшчэ: «21 ліпеня 1941 года камендант канцэнтрацыйнага лагера каля Мінска прымусіў вялікую групу яўрэяў выкапаць катлаваны. Калі яны былі гатовы, яўрэяў звязалі і кінулі ў яму. Затым фашысты загадалі беларусам, што знаходзіліся ў лагеры, засыпаць яўрэяў зямлёй. Усе беларусы наадрэз адмовіліся выканаць гэты страшэнны загад каменданта. Тады раз'юшаныя фашысты з кулямёта **расстралялі 45 яўрэяў і 35 беларусаў** (падкрэслена мною. — **Р. П.**)».

Падрабязныя звесткі аб становішчы ў акупіраваным Мінску і наваколлі прыводзяцца ў інфармацыях-аглядах, напісаных беларускім пісьменнікам Рыгорам Мурашкам камандзіру спецгрупы Цэнтральнага і Беларускага штабоў партызанскага руху маёру С. І. Казанцаву. З ім пісьменнік, як падпольшчык, падтрымліваў сувязь. Інфармацыі пацвярджаюць факты з дакументаў, якія прыведзены вышэй, дапаўняючы іх шматлікімі падрабязнасцямі аб расстрэлах, смерці ад голаду, хвароб, спёкі ваеннапалонных, цывільных асоб з Мінска, сялян у драздоўскім лагеры і лагеры на Старажоўскіх могілках. Датаваныя пачаткам 1944 г., інфармацыі-агляды пісьменніка захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

Некаторыя звесткі аб знішчэнні людзей каля в. Дразды можна знайсці ў кнізе «Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии», якая ўбачыла свет у 1963 г. Прыводзіцца вытрымка з допыту сведкі В. І. Навуменкі пра знішчэнне душэўнахворых у псіхіятрычнай бальніцы Навінкі Мінскага раёна ў 1941 г. В. І. Навуменка паказаў: «У верасні 19-20 дня немцы прыехалі на легкавых аўтамашынах у калонію Навінкі, акружылі баракі-дамы, у якіх знаходзіліся псіхічна хворыя, забіралі іх на аўтамашыну і адвозілі ў лазню калоніі, дзе была пастаўлена аўтамашына-«душагубка». Хворых замыкалі ў лазні і пускалі нейкі газ, і ўсе хворыя, што знаходзіліся ў лазні, былі задушаны. А потым мёртвых, г. зн. задушаных, **адвозілі ў вёс. Дразды і там іх закопвалі** (падкрэслена мною. — **Р. П.**).

Усяго немцы задушылі 198—200 чал. псіхічна хворых».

Пратакол быў складзены 24 ліпеня 1944 г.

У акце мінскай абласной камісіі аб масавым знішчэнні савецкіх грамадзян на тэрыторыі гор. Мінска і яго ваколіц нямецка-фашысцкімі захопнікамі ад 13 жніўня 1944 г., які змешчаны ў згаданай кнізе, чытаем: «IV. Урочышча Дразды. На паўночны ўсход ад канцэнтрацыйнага лагера, які знаходзіўся на тэрыторыі пасёлка Дразды, выяўлена траншэя-канава, у ёй пры раскопках у некалькіх месцах на глыбіні 0,5 м знойдзены рэшткі трупаў (чарапы, косткі, сатлелая адзежа). Памеры траншэі — 400 на 2,5 на 2,5 м. Па паказаннях сведак, у траншэі-канаве пахаваны расстраляныя немцамі савецкія грамадзяне, якіх прывозілі сюды для экзекуцыі з гор. Мінска, у колькасці каля 10 тыс. чал.».

На схеме-карце лагера знішчэння ў в. Дразды пад Мінскам, якая была распрацавана былым вязнем лагера А. Я. Толсцікам, паказана месца знаходжання траншэі. Схема-карта змешчана на форзацы даведачнай кнігі «Нацысцкая палітыка генацыду і «выпаленай зямлі» ў Беларусі», выдадзенай у 1984 г. тады Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б і аддзелам навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках АН БССР. Ёсць спасылкі на лагер і ў кнізе «Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі. 1941—1944» (1985 г.).

Што ж вынікае з прыведзеных архіўных сведчанняў?

Па-першае, у самім лагеры «Дразды» вязні гінулі ад наўмыснай стральбы па іх вартавых, ад голаду, смагі, хвароб. Праз нейкі час трупы загінуўшых выносіліся за межы лагера і паблізу закопваліся.

Па-другое, у час спецыяльных акцый ачысткі ці ў якасці пакарання за тыя ці іншыя правіннасці зняволеных расстрэльвалі ў вызначаным для гэтага месцы (на карце-схеме — 600—700 м ад уваходу ў лагер). Там былі расстраляны, напрыклад, калгаснікі калгаса «Чырвоны агароднік». Такі ж лёс, як відаць, напаткаў і яўрэйскую частку зняволеных, якую не адпусцілі пасля расфарміравання цывільнага лагера ў сярэдзіне ліпеня 1941 г.

Па-трэцяе, на працягу лета і восені 1941 г. тэрыторыя навокал лагера заставалася месцам масавага знішчэння розных груп жыхароў Мінска і наваколля, якіх у адведзены час прывозілі да месца пакарання смерцю на спецыяльных аўтамашынах.

Значыць, павінна быць не адна, а некалькі траншэй-пахаванняў на вызначанай тэрыторыі. Таму, магчыма, у свой час і паставілі адзін памятны знак. Сёння, пасля выяўлення ўсіх траншэй і ўстанаўлення межаў пахаванняў, трэба вырашыць пытанне аб увекавечанні месца трагедыі агульным помнікам, вартым чалавечай годнасці.

Нельга забываць, што палітыку генацыду на захопленых тэрыторыях гітлераўскія фашысты пачалі ажыццяўляць з першых дзён уварвання. Гэта не было акцыяй у адказ на супраціўленне народа і партызанскія дзеянні, як часам можна пачуць ад тых, каму вельмі хацелася б па-новаму прачытаць гісторыю мінулай вайны. Генацыд арганічна вынікаў з планаў каланізацыі ўсходніх тэрыторый, загадзя распрацаваных нацысцкім кіраўніцтвам Германіі. Для Беларусі прадугледжвалася знішчэнне ці высяленне 75 працэнтаў яе насельніцтва і анямечванне астатняга. Як пісаў вядомы пісьменнік, забыццё — гэта не вартая нас слабасць.

**Расціслаў ПЛАТОНАЎ, доктар гістарычных навук.**

*ПАЛЕМІКА*

# АБ КУЛЬТУРЫ ДЫСКУСІІ,

## або Новае слова ў жанры калектыўных скаргаў

Гісторыя з калектыўным пратэстам 117 мастакоў і іншых дзеячаў культуры, на мой погляд, вельмі характэрная. Трэба прызнаць, з часоў падзення савецкай улады прафесіянальны ўзровень падрыхтоўкі калектыўных пісьмаў рэзка знізіўся. Традыцыі стаднасці ў нашым грамадстве вельмі моцныя — і яшчэ доўга будуць даваць аб сабе знаць. Аднак усякі навык без трэніроўкі слабее, і калі раней калектыўныя пісьмы, пратэсты і даносы, якія выкрывалі вельмі злоснага ворага сацыялістычнага рэалізму М. Савіцкага, вызначаліся і стылем, і рэзкасцю фармулёвак, то гэта папера, безумоўна, не ідзе з імі ні ў якое параўнанне. Ранейшым застаецца толькі састаў «падпісантаў» — з невялікімі змяненнямі і дапаўненнямі новых імёнаў.

Па вялікаму рахунку, пра гэта пісьмо не варта было б доўга гаварыць — ні мне, ні, тым больш, майму бацьку ні ў чым і ні перад кім апраўдвацца, і ўжо, зразумела, няма сэнсу даказваць, што ты маеш рацыю тым, хто рыхтаваў гэта пісьмо. Аднак у гэтым «адкрытым лісце» ёсць некаторыя нюансы, якія патрабуюць удакладнення. Ды і сам стыль яго настолькі характэрны, што робіць гэты дакумент нібы «рэнтгенаграмай» пэўнага слоя людзей, якія лічаць сябе адзінымі прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі.

Азнаёміўшыся з тэкстам пісьма, Міхаіл Андрэевіч сказаў, што не бачыць асаблівага сэнсу ў дыскусіі з аўтарамі чарговага калектыўнага даносу. Аднак я са свайго боку «имею сказать пару слов», як пісаў Ісаак Бабель. У дадзеным выпадку мы маем справу з прыкладам класічнай падмены паняццяў, ці «падтасоўкі». Інтэрв'ю з М. Савіцкім было прысвечана пытанням культуры ў цэлым, таму крытычнаму становішчу, у якім яна апынулася. Тэма Беларускай акадэміі мастацтваў і крытыка ў адрас гэтай навучальнай установы былі ўсяго толькі прыкладам агульнага развалу, які пануе ў беларускім мастацтве.

Крызіс гэтай ВНУ — і матэрыяльны, і духоўны, і метадычны, прафесіянальны асабіста для мяне відавочны. Больш таго, многія з тых, хто падпісаў гэта пісьмо і разам з тым непасрэдна ведае становішча спраў у ВНУ, выказваюцца аб ім крыху інакш і далёка не ў такіх парламенцкіх выразах, як М. Савіцкі. Але гэта толькі ў прыватных гутарках, адзін на адзін і з абавязковым «але гэта, стары, сам разумееш, паміж намі». Зразумела, В. П. Шаранговіч, як фактычны кіраўнік усіх трох навучальных устаноў, дзе працуюць педагогі і мастакі, якія падпісалі пісьмо, будзе адмаўляць адсутнасць аднадумства ў радах падначаленых яму прафесараў, дацэнтаў і пагадзіннікаў. Гэта для мяне зусім зразумела.

Аднак у чалавека, які прачытаў гэта пісьмо і не знаёмы з тэкстам самога інтэрв'ю, можа ўзнікнуць уражанне, што Савіцкі толькі і думае, як бы «звесці невядома якія рахункі» з паважанай ВНУ. Ніводным словам аўтары пісьма не абверглі думкі М. Савіцкага аб тым, што ў нашым мастацтве становішча крытычнае. Ці, магчыма, яны лічаць, што крызісу ў нашай культуры няма? Ці БелАМ з'яўляецца адзіным востравам дабрабыту сярод усеагульнага развалу, гэткім «вокам тайфуна», і размову можна весці толькі аб «дзе-нідзе і сякіх-такіх асобных і зусім нетыповых» недахопах, як было прынята пісаць яшчэ зусім нядаўна?

Добра, дапусцім, у ВНУ ўсё прыстойна, і строгая вымова, аб'яўленая рэктару БелАМ увосень мінулага года, была трагічным непаразуменнем. Дапусцім, што менавіта крытычныя заўвагі аб прафесіянальнай падрыхтоўцы мастакоў, выказаныя М. Савіцкім яшчэ ў 1979 г. і сталі прычынай усіх «цяжкасцей» у ВНУ. Дапусцім, што крытыка ў адрас кіраўніцтва інстытута, выказаная маім бацькам, зусім не адбілася на тых праблемах, што былі ў мяне пры паступленні на вучобу. Не будзем доўга гаварыць аб тым, што В. П. Шаранговіч быў маім дыпломным кіраўніком — і на пратаколе ДЭК, дзе мне выстаўлена выдатная ацэнка, стаіць і яго подпіс. Усё гэта — справы, так сказаць, прыватныя і даўно мінулыя.

Звернем увагу на тое, што ў калектыўным пісьме недвухсэнсоўна намякаецца на жаданне М. Савіцкага «абсалютызаваць і насадзіць сваё ўяўленне аб мастацтве, і тым больш аб навучальным працэсе». Згодна з тэкстам пісьма, М. Савіцкі лічыць сябе «ісцінай у першай і апошняй інстанцыі». Пакінем гэта сцвярджэнне на сумленні тых, хто рыхтаваў гэту публікацыю і адказваў за яе «літаратурную частку». Ва ўсякім разе, мне было прыемна прачытаць, што 117 чалавек падпісаліся пад гэтымі словамі.

Але самае кранальнае ў гэтым пісьме тое, што ўвесь згуртаваны калектыў не вагаючыся бярэ на сябе смеласць гаварыць ледзь не ад імя ўсёй беларускай культуры і ўсяго беларускага народа, ад народнай душы, «якая прагне творчасці і духоўнай сілы». Мяркуючы па ўсім, аўтары пісьма лічаць сябе прыхільнікамі сапраўднай дэмакратыі і імкнуцца процістаяць «адыёзным» сілам. Але дэмакратыя перш за ўсё — гэта правы асобы, правы кожнага чалавека мець сваю думку і выказваць яе нягледзячы на акалічнасці. І калі меркаванні аднаго толькі чалавека, якім бы ён славутым ні быў, супярэчаць чым-небудзь поглядам, абвергнуць іх адной толькі колькасцю подпісаў немагчыма.

У калектыўным пісьме няма ні аднаго абгрунтаванага аргумента, які абвяргае думку М. Савіцкага аб крызісе як усёй нашай культуры, так і асобна ўзятай навучальнай установы. Сцвярджэнні аб тым, што некаторыя выпускнікі БелАМ атрымалі медалі Акадэміі мастацтваў СССР (калі, дарэчы, БелАМ была толькі БДТМІ), аб тым, што дыпломныя работы былі ўвасоблены ў помніках і манументальных работах, сведчаць аб творчай адоранасці канкрэтных людзей. Узровень навукова-метадычнай, творчай, прафесіянальнай падрыхтоўкі студэнтаў вызначаецца не толькі «ўзнагародамі і адзнакамі». Калі падлічыць, колькі тысяч людзей закончылі БДТМІ-БелАМ за больш чым 50 гадоў і пералічыць, колькі буйных мастакоў выйшла з іх радоў, розніца будзе відавочная. Ва ўсякім разе, у буклеце, выпушчаным да 50-годдзя БелАМ, не набярэцца і двух дзесяткаў імён, якімі акадэмія афіцыйна ганарыцца. Хоць на гэтыя словы адказ у калектыўным пісьме загадзя дадзены: «Мастацтва не мае межаў, і яго развіццё не можа быць запраграміравана». Што ж, гэта так. Аднак размова ў інтэрв'ю ішла не аб праграміраванні мастацтва, а аб тым, што існуючыя ў ВНУ вучэбныя праграмы недасканалыя. І замест таго, каб разважаць аб мастацтве без берагоў і немагчымасці кіраваць мастацтвам, кіраўніцтву ВНУ, магчыма, трэба было б кіраваць навучальным працэсам і «праграміраваць» вучэбныя праграмы. І наогул, калі ў БелАМ усё выдатна, ці варта дзеля абвяржэння думкі прыватнай асобы збіраць столькі подпісаў? Ці не лепш было б правесці комплексную праверку, запрасіць незаангажыраваных і нейтральных у адносінах да гэтай спрэчкі спецыялістаў і адвергуць «крайне суб'ектыўныя» сцвярджэнні сухой і спакойнай мовай фактаў?

Наколькі я ведаю біяграфію свайго бацькі, ён даволі часта аказваўся аб'ектам калектыўных скаргаў і «выкрыццяў» — гэта «традыцыя» ў асяроддзі беларускіх мастакоў мае ўжо больш чым трыццацігадовую гісторыю. Тыя ж людзі, што ў 60-я гады называлі Савіцкага «ідэалагічным дыверсантам», «здраднікам радзімы, які здаўся ў палон», патрабавалі ад яго ўступіць у рады КПСС, у гады «перабудовы» аб'явілі Савіцкага «апалагетам сацрэалізму» і ворагам дэмакратыі. Цяпер у выказваннях гэтых людзей вернасць сваім прынцыпам шальмуецца пад лозунгам «нянавісці да беларускай культуры». І я, і мой бацька ў асяроддзі «прагрэсіўна думаючай» інтэлігенцыі ўжо былі і агентамі ФСБ, і прадстаўнікамі «пятай калоны» рускага народа. Што ж, успрымем гэта як камплімент — азлобленасць «нядобразычліўцаў» заўсёды прыемная.

Адно толькі ў гэтых кампаніях застаецца нязменным: варта чалавеку прама і шчыра выказаць сваю, асабістую думку — і ніхто з апанентаў не бярэ на сябе смеласць гэтак жа адкрыта выйсці «адзін на адзін». Як правіла — «калектыўны ліст». Што ж, кожнаму — сваё.

Аўтары пісьма спрабуюць іранізаваць наконт таго, што «глыбокае вывучэнне» Савіцкім становішча ў БелАМ прывяло яго да высновы аб палітызаванасці ВНУ. Але для такога заключэння не трэба «вывучаць» навучальны працэс — дастаткова прачытаць гэтае самае калектыўнае пісьмо. Прэтэндуючы на сарказм, аўтары пішуць: «толькі з нашай навучальнай установы маглі выйсці такія «палітыкі ад культуры», як Андрэй Савіцкі і Юрый Азаронак». Што ж, калі БелАМ ганарыцца гэтымі двума сваімі выпускнікамі, то становіцца незразумелым, чаму такую рэзкую непрыязнасць сустрэла крытыка ВНУ, якую я сабе дазволіў. Дакладней, адна толькі фраза, сказаная мной у гутарцы М. Савіцкага з карэспандэнтам «Звязды».

Магчыма, сказанае мной і маім бацькам прымаецца ў штыкі менавіта таму, што наша палітычная і грамадзянская пазіцыя прама процілеглая пазіцыі калектыву БелАМ? Магчыма, упамінанне майго прозвішча і прозвішча Азаронка ў дадзеным кантэксце павінна служыць сведчаннем адмежавання калектыву са 117 чалавек ад той пазіцыі, якую мы адстойвалі — і якая, дарэчы, мае некаторую падтрымку ў грамадстве? Але калі ўсе 117 чалавек так аднадушна занялі пэўную пазіцыю — ці не гэта сведчыць аб пэўнай палітычнай тэндэнцыі, якая пераважае ў сценах ВНУ?

Адным словам, «пытанні, вядома, цікавыя» — аднак, баюся, адказу з боку аўтараў пісьма мне давядзецца чакаць даволі доўга. І апошняе — наконт аўтараў. Мяне здзівіла аператыўнасць работы, «скорасць рэакцыі», скажам так. Уявіце сабе: у нашы дні, калі нікому ні да чаго няма справы — акрамя, натуральна, праблемы хлеба надзённага — сабраць больш за сотню подпісаў людзей, якія працуюць у розны час сутак, жывуць у розных канцах горада, скласці тэкст, «прабіць» яго публікацыю — і ўсё менш чым за два тыдні? У дэмакратычным грамадстве цяжка і ўявіць такі факт «аднадумства».

Адным словам, аб'ём работы праведзены значны — і гэта заслугоўвае павагі. Адно толькі трывожыць мяне: ці не пашкодзіла інтэрв'ю з маім бацькам рабоце трох навучальных устаноў? Ці не быў на час збору подпісаў паралізаваны навучальны працэс? І калі ўсё прайшло добра, то якой была такая паспяховая тэхналогія работы — бо 117 чалавек для такога нешматлікага асяроддзя, як дзеячы культуры, — гэта амаль рэферэндум. Ва ўсякім разе, гэта сур'ёзная работа не павінна прапасці марна: улічваючы актыўнае «вядзенне баявых дзеянняў» і прымаючы пад увагу такія раўнадушныя адносіны пераважнай большасці педагогаў да становішча спраў у галіне мастацкай адукацыі, трэба было б высветліць, нарэшце, ісціну. Чаму б, напрыклад, Міністэрству культуры не вызначыць, хто ж тут мае рацыю?

**З павагай Андрэй САВІЦКІ.**

